ISSN 0132-5957



# ВОЖЫК

Часопіс сатыры і гумару

№ 10 (кастрычнік) 2015

## У нумары:






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.

## Ад сесіі да сесіі...

Міні-кніжка




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# N.B. «Нота бенэ»

Звярні ўвагу!










Малюе Мікола ГІРГЕЛЬ







Малюнак Тамары РАДАВАНАВІЧ.




Малюнак Алега ПАПОВА.

## Думкі ўголас

- Не тое бяда, што кожны са сваёй званіцы глядзіць, а тое, што робіць шмат пустога звону.
- Нізкімі паклонамі дасягнуў высокага становішча.
- Час пік – гэта час, калі і пікнуць не паспееш, як цябе ўжо заціснулі.
- Часцей за ўсё згадваюць тое каханне, калі кахалі без памяці.
- Матэматыкі першымі загаварылі пра роўнасць. З іх усё і пачалося.
- У жывой чарзе стаяла мёртвая цішыня.
- Узлёт быў галавакружным, а падзенне – галаваломным.
- З карабля, які тоне, бягуць смелыя пацукі. Палахлівыя на яго і не падымаліся.
- Цяжка развітвацца з лёгкім жыццём.
- Ці могуць быць працоўныя мазалі ад непрацоўных даходаў?
- Музыкі адбівалі такт так няўмела, што адбілі ахвоту слухаць.
- Буслы злятаюцца на дэмаграфічны выбух. І ў спёку можна змарозіць глупства.
- Ніякія высокія ідэі не апраўдаюць нізкія ўчынкі.
- Няхай сабе гады бяруць сваё. Але яны ж бяруць і маё!

**Даслаў Анатоль БАРЫСАГЛЕБСКІ,**
*г. Гомель.*






Правіла адно жыве спрадвеку:
Не чапляйся лепш да чалавека,
Не пытай, з кім спіць, ці мае грошы –
Будзеш для яго заўжды харошы.

* * *

Калі жанчына спадабацца хоча,
Напэўна ў дэкальтэ адкрые грудзі.
Але мужчына гляне толькі ў вочы,
Пакуль галодным страўнік яго будзе.

* * *

Яблыню садзіць сусед сабраўся,
Думае, што зробіцца святым:
З яблыка людскі грэх пачынаўся,
Можа, і закончыцца на ім?

* * *

Пра маладосць шкадуе чалавек,
Калі пражыў даволі доўгі век.
Пасля і старасці шкада бывае:
Яна, як і ўсё іншае, мінае...

* * *

Сабе ў кішэнь – і хата з краю,
Такія прынцыпы у нас.
І я патроху прывыкаю,
Прайшоў калектывізму час...




**Антон АНІСОВІЧ,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Пугчына.*






– Якія рэсурсы ты выкарыстоўваеш для самаадукацыі?
– Граблі.

* * *

Падчас экзамену.
– Штосьці я на лекцыях вас не бачыў, – кажа прафесар студэнту.
– Дык я вунь за той калонай сядзеў, – апраўдваецца хлопец.
– І як гэта вы ўсе за адной калонай змясціліся? – здзіўлена зазначае выкладчык.

* * *

Вучыцца, вучыцца, вучыцца – гэта лепш, чым працаваць, працаваць, працаваць.

* * *

Настаўніца беларускай мовы, першы раз скокнуўшы з парашутам, была моцна ўзрушаная, вельмі здзіўленая і надта збянтэжаная, але ўслых чамусьці крычала па-іншаму.



* * *

Ідзе лекцыя.
«У многіх мовах падвойнае адмаўленне азначае зацвярджэнне, – бубніць лектар, – але ні ў адной падвоенае сцвярджэнне не азначае адмаўлення».
Яхідны голас з задняй парты: «Так, канечне!..»

* * *

– Ты чаго ўвесь у сіняках?
– Ды вось, бумеранг знайшоў...
– Дык выкінь яго!
– Ага, сам паспрабуй!




Прывітанне,
калючы дружа!

Купіў нядаўна ў магазіне пачак пячэння. Толькі калі прыйшоў дамоў, прачытаў назву і ажно ўсклікнуў ад здзіўлення:

– А ў фірме, якая яго вырабляе, з фантазіяй няма праблем!




Але потым задумаўся: «А што, калі на іншых прадпрыемствах пачнуць, напрыклад, выпускаць цукеркі «Самба», каўбасу «Вальс», сыр «Кракавяк», кетчуп «Румба» ці батон «Полька»?» Назваў танцаў жа многа. Ды і гучаць яны загадкава, ніколі не здагадаешся, з чым унутры прадукт.

Адно я зразумеў дакладна: работнікі сталічнага прыватнага прадпрыемства «Биайкорм» — адметныя танцоры. І кулінары.



**Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




Цяпер сваю палавіну шукаюць рознымі спосабамі: адны — з дапамогай сацыяльных сетак і СМІ, другія — на дыскатэках і ў кафэ, а трэція — размяшчаюць аб'явы на... аўтамабілях.

Першым гэты метад прымяніў жыхар Брэста Руслан Юрцэвіч яшчэ летась. Ён прыклеіў на сваю машыну паперу аб продажы, а побач павесіў яшчэ адну: «Ищу жену, номер тот же». І хоць каханую знайшоў не па аб'яве на аўтамабілі, але даведаўся шмат чаго цікавага пра жанчын, склаў нават цэлы спіс парад для дзяўчат, якія мараць выйсці замуж. (Гісторыя была надрукавана ў газеце «Комсомольская правда в Беларуси».)

Ці пашанцуе аўтару гэтай аб'явы? Пакуль невядома.




**Андрэй ПЯТРЭНКА,**
*г. Рэчыца.*

---

**Анатоль ЗЭКАЎ**

## Размеркаванне

*Байка*





У Акадэміі лясной
Ад самага ад рання
У будане,
Што пад сасной,
Ішло размеркаванне.
І па адным сюды
Звяры ныралі ў кабінет.
Адтуль — каго куды —
Іх накіроўвалі у свет.

Вяршылі лёсы пад сасной
(Такая ўжо ў камісіі работа):
Каго пры Акадэміі лясной
Пакінуць,
А каго — ў балота.
Чаго тут толькі не было!
Выдатнікаў —
І тых трасло,
Бо ўдалеч ехаць,



У балота,
Каму, скажыце мне, ахвота?
Ўсе хвалявалiся,
Апроч Мядзведзя,
Прагульшчыка заўзятага,
Бо лапа у Мядзведзя
Недзе
Была,
Як кажуць, валасатая.



———

Адбыўся гэты інцыдэнт
Не ў нейкім там далёкім свеце —
У энным універсітэце.

**Віктар ЛОЎГАЧ**

# Гуртам лягчэй

*Іранеска*



Стары Мірон, колькі ні званіў дзецям – двум сынам і дачцэ, каб прыехалі і дапамаглі пасадзіць бульбу, кожны раз чуў адно: «Не можам, тата, на працы завал поўны. Але пазней, калі будзеш мець у чым патрэбу, усе разам прыедзем, выручым. Гуртам жа заўсёды лягчэй».

Бацька не крыўдзіўся, наадварот, перажываў за іх. Жонцы казаў так:

– Радуйся, маці, добрых мы выгадавалі дзяцей. За дзяржаўнае як за сваё кроўнае турбуюцца. А мы неяк і самі ўправімся.

Пазней, калі ўзышла бульба, залапушыліся памідоры і агуркі, зазелянела і пустазелле. Бацька зноўку звярнуўся да дзяцей:

– Трава буяе, бульбу трэба акучваць ды ратаваць іншую агародніну. Прыязджайце, чакаем!

– Даруй, тата, даруй, мама, – спачувальна адказвалі сынкі і дачка. – Няма калі: дзетак ва ўніверсітэты час уладкоўваць.

І Мірону лягчэй станавілася на сэрцы: «Малайцы, што маіх унукаў вучонымі стараюцца зрабіць. Сёння без адукацыі нельга».

Потым яшчэ званіў:

– Сена кароўцы трэба нарыхтоўваць, а які з мяне касец? Каму ж, як не вам, сынкі, дапамагчы.

– Родны ты наш, любімы і дарагі, – ажно плакалі ў трубку тыя. – Не зможам пад'ехаць. Пуцёўкі набылі ў санаторый. На сябе і на тваіх унукаў. А гэта такія грошы!

«Але, важкая прычына, – разважаў бацька. – Здароўе патрэбна з маладосці берагчы».

А глыбокай восенню, калі старыя ўправіліся з усімі работамі (дзякуй за тое суседзям) і задумалі свежаваць парсюка, нечакана з'явіліся дзеці – два сыны, дачка і пяцёра ўнукаў.

– Вырашылі, бацька, – заявіў старэйшы сын, – усе разам табе дапамагчы. А то ўсё сам ды сам.

– Дзякуй, дзякуй, мае вы крывінкі, – узрадаваўся ён. – Вядома ж, гуртам лягчэй. Вы гэтага пярэзімкапарсючка ўміг адолееце. А нам, старым, колькі было б з ім клопату...

*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



Каждый студент, получивший неудовлетворительную оценку, может получить конфетку в деканате
в рамках психологической разгрузки и адаптации к стрессовой ситуации.

Конфеты раздает зам. директора по воспитательной работе.

Более ничем помочь не можем – учитесь лучше!



# Дробныя літары

*Міні-фельетон*




Сёння ўладкавацца на прэстыжную работу з добрай зарплатай – адна з найважнейшых мэт у жыцці чалавека. Кожны імкнецца зарабляць як мага больш.

Вось і Вольга Пятроўна, убачыўшы на зваротным баку квітанцыі на аплату ЖКП аб'яву аб перспектыўнай і грашовай працы, узрадавалася:

– Зараз пазваню і разведаю, што ды як. Потым раскажу пра сябе. Можа, і возьмуць... Тады зажыву, ні ў чым сабе адмаўляць не буду! Аплату ж вялікую абяцаюць.

Набрала нумар адзін раз – пачула голас аўтаадказчыка. Пазваніла на наступны дзень – зноў адгукнуўся адзін ён. Жанчына забылася пра свае спробы, але толькі да таго моманту, пакуль не атрымала рахунак за тэлефонныя размовы. У графе «Паслугі пабочных арганізацый» значылася сума ў 572 тысячы рублёў...

Пенсіянер Васіль Іванавіч таксама заўважыў падобную аб'яву:

– Нічога сабе! «Студэнты. Пенсіянеры. Беспрацоўныя. Праца дома. Пастаянная. Часовая. Заработная плата да 13 мільёнаў рублёў». А хіба мне не патрэбны дадатковыя грошы? Хто пытае, той многа знае.

Рызыкнуў і пазваніў па ўказаным нумары. Добра, што ўсяго адзін раз. За размову з аўтаадказчыкам давялося заплаціць 286 тысяч рублёў. Хоць мужчына і ўбачыў выраз, напісаны дробнымі літарамі, «Кошт званка – згодна з тарыфам аператара», але нават падумаць не мог, што гэта так дорага.

Такіх падманутых людзей у Брэсцкай і Гродзенскай абласцях назбіралася шмат. Супрацоўнікі Камітэта дзяржкантролю вельмі зацікавіліся ІП ПДІС (платная даведачна-інфармацыйная служба) «Работа и Услуги». Зразумела, што спачатку яны звярнуліся ў РУП «Белтэлекам». Маўляў, чаму тэлефонныя размовы з гэтай арганізацыяй каштуюць так дорага. Там адказалі, што ІП дзейнічае ў адпаведнасці з заканадаўствам і заключаным дагаворам. У ім прапісана, што прадпрымальнік сам вызначае тарыфы на званкі. Дарэчы, дагавор заключылі яшчэ ў ліпені 2011 года. Напрыклад, летась у прадпрымальніка атрымалася зарабіць на даверлівых людзях больш за 1,5 мільярда рублёў.

Далей матэрыялы справы былі перададзены ў Пракуратуру і Следчы камітэт Брэсцкай вобласці. Але ў выніку ёй займаўся Аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Камянецкага РАУС, які не знайшоў у дзейнасці ІП нічога крымінальнага і супрацьзаконнага.

Пытанне наконт падманаў з платнымі тэлефоннымі званкамі застаецца адкрытым. Колькасць прадпрыемстваў, якія такім чынам выцягваюць грошы з наіўных грамадзян, з кожным месяцам павялічваецца. Застаецца толькі чакаць, калі прымуць закон, каб спыніць дзейнасць падобных «шарашкіных кантор». А пакуль людзям, якія хочуць мець прэстыжную работу, трэба быць больш уважлівымі і чытаць усё, што напісана дробнымі літарамі.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

---






**1.** Калі першакурснік прыходзіць на заняткі за паўгадзіны да іх пачатку, трэцякурснік збіраецца да другой пары, то СП не ідзе ва ўніверсітэт зусім.



**2.** СП лічыць, што калі праспаў першую пару, а на другой той жа выкладчык, то навошта тады ісці на трэцюю?



**3.** СП, які адвучыўся на бюджэце, чакае страшнага прысуду размеркавання. І не ведае, што лепш: знайсці працу ці пабрацца шлюбам?






«Быў я неяк у аднаго заможнага селяніна. Падчас гутаркі ён частаваў мяне рознымі стравамі. А на развітанне падарыў ладны кавалак сала.

– Каб думалася і пісалася лепш, – сказаў гаспадар.

Я адразу спытаў:

– А як стаць такім жа заможным чалавекам?

– Каб смачна пад'есці і хораша жыць, трэба многа рабіць, – не задумваючыся, адказаў ён.

Маланкава ўзнікла новае пытанне:

– А што пра гэта думаюць іншыя? І ці не стаць мне таксама заможным селянінам?

– Давай даведаемся ў маіх аднавяскоўцаў, калі мне не верыш, – прапанаваў субяседнік.

Прыйшлі мы да першага суседа. Той сказаў: «Без зярніны не пад'ясі свініны». Другі параіў: «Рана не ўстанеш – многа не зробіш. Бо тое, што спіна зробіць, рот і ўхопіць». Ад трэцяга пачуў: «Працу палюбіш – чалавекам будзеш».

На іншым канцы вёскі стары дзед выдаў: «Пільнуйся гаспадаркі, будуць і на патэльні скваркі». А яго жонка дадала: «Гонар і слава да таго прыходзіць, хто ў працы наперадзе ходзіць». Іх сусед таксама не змаўчаў: «Якія мы гаспадары, такія нашы і двары». І дадаў: «Найсмачнейшы хлеб ад сваёй працы. А без працы няма чаго хлеба шукаці».

Падумаў я і вырашыў, што калі так шмат працаваць, то хто ж будзе філасофскія трактаты пісаць? Без іх чалавецтва шмат страціць. Таму, напэўна, застануся без свініны. А пакуль яна была, то і новая праца лепш на паперу лягла».

**Маналог падслухаў**
**Андрэй СІДАРЭЙКА,**
*Рэчыцкі раён,*
*в. Каравацічы.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.



Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

**4.** Кожнага СП большасць выкладчыкаў ведае па імені.

**5.** Кожны СП ведае па імені большасць выкладчыкаў.

**6.** СП абавязкова глядзіць зверху ўніз на першакурснікаў.





**7.** СП ведае, дзе можна пад'есці танна альбо на халяву.

**8.** Дэвіз СП: «Я падумаю пра гэта заўтра».

**9.** СП, які жыве ў інтэрнаце, з адных яек можа стварыць кулінарны шэдэўр.

**10.** СП ахвотна дзеліцца вопытам са студэнтамі малодшых курсаў. Калі не папрасіць яго замаўчаць, будзе гаварыць да самага вечара.



**Заўважыла Карына ПАЦКО,**
*былая пяцікурсніца БДПУ імя Максіма Танка,*
*г. Жодзіна.*











# ДВА БАКІ

*Міні-п'еса*

**Дзеючыя асобы:**

**Вядучы тэлеперадачы.**

**Першая група: Яўген, Мікола, Алесь**, мастакі-графіцісты, якія малююць прыгожыя карціны на вуліцах гарадоў.

**Другая група: Зміцер, Алег, Ігар**, графіцісты, якія лічаць сябе сапраўднымі «геніямі» мастацтва.

**Маргарыта Пятроўна**, тэлеглядачка.

Гучыць музычная застаўка, загараецца святло і ў студыі з'яўляецца прыгожа апрануты вядучы.

**Вядучы.** Добры дзень, паважаныя тэлегледачы. Як заўсёды па аўторках, рады ўсіх вітаць на ток-шоу «Два бакі». Сённяшняя тэма гучыць так: «Графіці – мастацтва ці вандалізм?». Па левую руку ад мяне вы бачыце трох маладых мастакоў, якія малююць сапраўдныя шэдэўры на вуліцах нашых гарадоў. А па правую – графіцістаў, якія курыруюць тых, хто імкнецца захаваць сваю «творчасць» у сакрэце, не афішуюць прыналежнасць да тых ці іншых работ.

Гучаць апладысменты.

Мы паслухаем меркаванні, аргументы і доказы першай і другой групы. Гледачы таксама могуць паўдзельнічаць у нашай дыскусіі. Тэлефануйце на кароткі нумар 7272 і выказвайце думкі на тэму вулічнага мастацтва графіцістаў. І галасуйце за першую групу ці другую. Мы ж пазнаёмімся з удзельнікамі ток-шоу. (*Паглядзеўшы налева.*) Хлопцы, калі ласка, прадстаўцеся, чым вы займаецеся і чаму вырашылі стаць вулічнымі мастакамі?

**Яўген.** Добры дзень. Вельмі прыемна, што вы нераўнадушна адносіцеся да тэмы графіці і запрасілі нас у госці. Мяне завуць Яўген, маіх сяброў (*Паказваючы на кожнага.*) – Мікола і Алесь. Знаёмыя мы ўжо даўно, часта сустракаемся на розных фестывалях, прысвечаных вулічнаму малюнку. Спадзяюся, што мае таварышы згодзяцца: усе мы пачалі займацца гэтым відам мастацтва, бо хацелі, каб вуліцы сталі больш яркімі, каб, праходзячы каля нашых карцін, гараджане ўсміхаліся. Калі дазволіце, я пакажу самыя адметныя работы графіцістаў Беларусі.

На экране з'яўляецца слайд-шоу.

**Мікола.** На першым здымку вы бачыце адзін з малюнкаў мінскага праекта «Мартовские коты», на другім – графіці на апоры моста ў Пінску. Трэці слайд дэманструе нам, як афармляюцца пад'езды ў сталіцы, на чацвёртым паказаны партрэт Марка Шагала на адной з вуліц Віцебска, а на пятым – князя Вітаўта ў Гродне. За гэтыя работы жыхары гарадоў дзякуюць нашым калегам, адзначаючы, што такім чынам мы ўпрыгожваем двары, паказваем дзецям і моладзі славутых землякоў.

**Алесь.** Мы імкнёмся ўзгадняць свае праекты з гарадскімі ўладамі, зацвярджаць іх у старшыняў будаўнічых кааператываў. Так




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.



Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

было з усімі прадстаўленымі графіці. І гэта толькі маленькая частка. Мы працуем старанна і марым пра тое, каб у кожным двары з'явілася штосьці падобнае да такіх праектаў. Канешне, мы не святыя, і ёсць сярод нас графіцісты, якія малююць на сценах свае карціны без дазволу. Але няхай горад лепш будзе ўпрыгожаны такімі графіці, чым мазанінай кшталту «Маша, я цябе кахаю!»

**Вядучы.** Вялікі дзякуй за дэманстрацыю фотаздымкаў, мяркую, што нашым тэлегледачам было вельмі цікава паслухаць пра вашыя работы. Зараз слова даецца другой групе.

**Зміцер.** Прывітанне. Мяне завуць Зміцер, побач са мной – Алег і Ігар. Мы таксама вулічныя мастакі. Вось толькі не выстаўляем гэта на паказ, як нашы апаненты. Кожны з нас малюе на вуліцах гарадоў усё, што пажадае. Вось прыклады.

На экране з'яўляецца слайд-шоу.

**Алег.** Для нас галоўнае – заявіць пра сябе. Паказаць, як мы адносімся да рэчаіснасці. Адно не зразумела: навошта атрымліваць розныя дазволы на тое, каб штосьці намаляваць?...

**Ігар.** Да таго ж, прадстаўнікоў першай групы ў разы менш, чым «нашых». Скажу больш, такіх мастакоў, як мы, можна знайсці ў любым кутку Беларусі. І яны нікуды не дзенуцца, у гэтым я ўпэўнены. Мы паказваем сапраўдныя пачуцці, хай і праз звычайныя надпісы. Яны шчырыя, хоць і простыя. Мяркую, што кожны з вас, паважаныя тэлегледачы, хоць раз у жыцці, але пісаў ці вельмі хацеў намаляваць штосьці ў грамадскім месцы. Ці не праўду я гавару?

Гучаць апладысменты і пахвальныя воклічы.

**Вядучы.** Якая палкая прамова! Але зараз да нас дазванілася Маргарыта Пятроўна з Брэста. Давайце паслухаем яе пытанне.

**Маргарыта Пятроўна.** Добры дзень. Сапраўды была ўражана працамі хлопцаў першай групы. Але я хацела б задаць пытанне прадстаўнікам другой. Калі ласка, адкажыце, вы не лічыце, што псуеце знешні выгляд гарадоў? Дзякую за ўвагу, будзе цікава вас паслухаць.

**Зміцер.** Шкодзім? Зразумела, што не. Мы такім чынам бачым мастацтва, а каму не падабаецца, хай не глядзіць і не чытае. Нікога ж не прымушаем.

**Алесь** *(з усмешкай).* А можа, вы проста не ўмееце як след маляваць?

**Алег** *(са злосцю).* Што ты сказаў? Гэта сярод вас адны хвалькі, а самі толькі і можаце, што з карцінкі перамалёўваць!

**Вядучы** *(ціха звяртаецца да гледачоў).* Слухаў бы і слухаў гэтую спрэчку, але, на жаль, наш час заканчваецца. *(Гучна на ўсю студыю.)* Давайце падвядзём вынікі галасавання. З перавагай у трыццаць працэнтаў перамагла першая група. Апладысменты! Дзякую ўсім удзельнікам за выказаныя думкі. Мяркую, тэлегледачам было цікава іх пачуць. Я ж развітваюся роўна на тыдзень. Да сустрэчы!

Гучыць музычная застаўка.
У студыі паступова цямнее.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**










Яго вочы выпраменьвалі цеплыню, святло і іншыя камунальныя паслугі.

* * *

– У мяне такое дзіўнае пачуццё!
– Якое?
– Пачуццё ўласнай годнасці!

* * *

– Я вельмі часта задаю сам сабе адно і тое ж пытанне.
– Якое?
– Навошта я задаю сабе адно і тое ж пытанне?

* * *

– Вы размаўляеце па-англійску?
– Толькі са слоўнікам.
– Не хапае практыкі?
– Не, адвагі: з людзьмі яшчэ сароамлюся.

* * *

– Дайце, калі ласка, дзве сасіскі...– кажа студэнт буфетчыцы, працягваючы грошы.

Чарга перашэптваецца: маўляў, шыкуе хлопец.

– ...і васямнаццаць відэльцаў, – дагаворвае той.

* * *

Фізік пытаецца ў матэматыка:

– Слухай, а чаму цягнік так грыміць, калі ў яго колы круглыя?

– Гэта элементарна! – адказвае той. – Формула кола – пі эр квадрат. Вось ён вугламі і грукоча.



## Мініяцюры

### Няма ліміту

Сябры пытаюцца: «Кузьма,
Чаму ты трэці раз жанаты?»
«На шлюб ліміту ў нас няма.
Гарачы нораў вінаваты!»

### Усім дагадзіў

Не кожны хлусіць ў нашы дні,
А праўда часта вочы коле.
Дык ён нікому не маніў
І праўды не казаў ніколі.



**Мікалай ГЛЕБ,**
*Ляхавіцкі раён,*
*в. Падлессе.*

### Знаходлівасць

Без мяса цяжка накарміць
Мужоў сваіх кабетам,
Дык навучыліся рабіць
З гародніны катлеты.

### Састарэлы Дон Жуан

Спакусіў адну, другую...
Пасля кінуў тых дзяўчат.
Пастарэў – сядзіць гаруе,
Што не верне іх назад.

### «Майстар»

Аляксей – слынны «майстар»
на вёсцы.
Што ж умее мужчына рабіць?
Лепш за іншых ва ўсім наваколлі
Цягне тое, што дрэнна ляжыць.




**Лідзія ФАРБОТКА,**
*Стаўбцоўскі раён,*
*в. Пруды.*

### Кіраўнік

Вельмі гучны голас мае,
Ўсіх наўкола павучае.
Дзе ні гляне – ўсё не так,
Сам жа ў працы ён лайдак.

### Хто вырасце?

Сын-студэнт расце ў раскошы,
Любіць бары, рэстараны...
Кажуць, што з вялікіх грошай
Вырастаюць хуліганы.

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*




### Прыходзь заўтра

Гаспадар снедае. У хату заходзіць сусед.

– Будзеш есці ўчарашні крупнік? – пытаецца гаспадар.

– Так, – радасна адгукаецца той.

– Ну, тады прыходзь заўтра.

### Згубіў слых

На прыёме ў музычную школу.

– Разумееце, мы не можам узяць вашага сына.

– Чаму?

– Слыху няма.

– А божачкі! Няўжо аглух? Учора ж ён яшчэ ўсё чуў.

**Даслаў**
**Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*

## Літаральныя гісторыі

Лучніца К. А. Кетка так страляла вочкамі, што яе стрэлы імгнення траплялі ў мужчынскія сэрцы.

**Работніца сталовай Т. А. Лерка, размаўляючы, часта пералівала з пустога ў парожняе.**

Цясляр Ц. В. Ік вырашыў «забіць» на сваю працу.

**Землякоп Ш. У. Фель, жонка якога кожны вечар быццам пад зямлю праваьвалася, нарэшце дакапаўся да праўды.**

Прачка А. Н. Уча мела бездакорную рэпутацыю без ніводнай плямкі.

**Работніца шакаладнай фабрыкі С. А. Лодкая была прывабная, як цукерачка!**

У пекара П. І. Рагова справы ішлі як па масле.

**Афіцыянтка С. У. Рвэтка разбіла сэрца аднаму з наведвальнікаў рэстарана.**

Дырыжор А. Р. Кестр працаваў не апускаючы рук.



Вернісаж



# Малюе Вікенцій ПУЗАНКЕВІЧ












**Маньяк П. І. Сталетаў нечакана трапіў у палон прыгожых жаночых вачэй.**

Настаўнік матэматыкі П. І. Фагор скардзіўся, што ў яго не складваецца жыццё.

**Банкір Д. О. Лар вядомы сваімі залатымі рукамі.**

Лётчык П. І. Лот заўсёды ляцеў да жонкі на крылах кахання.

**Запісала Ганна КІСЛУШЧАНКА.**

*P. S. Вы здагадаліся прачытаць ініцыялы і прозвішчы герояў гісторый літаральна? Малайцы!*



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




# Журавінная аскоміна



Прыбіраюся у хаце,
Раптам загучаў званок.
Бяру трубку – Люсі-свацці
Чую мілы галасок:
– У мяне ёсць прапанова.
Калі ногі не баляць,
Зранку выганіш карову –
Пойдзем ягады збіраць.
Хоць пакуль няма дазволу,
А мы ціхенька, тайком
Недалёка, каля дома
Журавінак набяром.
Пакуль выйдзе пастанова,
Стопчуць журавіннік ўвесь...
Ледзьве дзень пачаўся новы –
Чэшам мы бадзёра ў лес.

Вось балота праступае,
Вось і ягада пайшла.
Камары, сляпні кусаюць,
Мошкі ліпнуць, як смала.
Самалёта шум пачуўся,
Ляціць нізка. Вартавы!
За плячо краную Люсю:
– Прыцiскайся да травы!
На зямлю абедзве ўпалі,
Добра памясілі гразь.
Уцякалі – рагаталі:
Ох, каб бачыў муж, Адась!
Не збіраем журавінаў
З тых часоў са сваццяй мы,
Бо аскоміну набілі –
Кісла будзе да зімы!

**Яніна ЖАБКО,**
*г. Мінск.*



Малюнак
Ганны КІСЛУШЧАНКІ,
тэма Міколы НАВАРЫЧА.

# ШТО КАРЫСНЕЙ?

Навaрыў аднойчы піва –
Не пітво, а проста дзіва!
З такой радаснай нагоды
Прыняў куфаль з асалодай.
Свет ураз павесялеў,
У ахвоту я паеў:
Кумпячок, свіную ножку,
А наверх капусты трошкі.

Яшчэ куфаль – прэч турботы,
Непрыкметна ўпаў ў дрымоту...
З тых часоў да розных страў
Часта піва спажываў.
Ды жывот пачаў расці –
Цяжка рухацца, ісці.
Хоць прыстойны апетыт,
Але мучае гастрыт.
Трэба нейк зганяць жывот!
Я цяпер вару... кампот.

**Уладзімір ЛАБКО,**
*г. Слонім.*














Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

**Мікола ГРАБЯНЁК**

# Юбілейны тост

*Гумарэска*



У народзе кажуць, што суседзяў не выбіраюць, а з імі жывуць і ладзяць. Васілевічы з Івановымі сябравалі, падстаўлялі плячо адзін аднаму і ў радасці, і ў горы. Аднак з цягам часу дружба пачала даваць трэшчыну. А ўсё з-за таго, што Васілевічы ўздумалі спаць з адчыненай форткай. Насупраць жа іх спальні – кухоннае акно Івановых, часта незакрытае.

Васілевічы яшчэ адпачываюць, а смачныя пахі з суседскай кухні казычуць іх насы. Вось муж жонку і пачаў дапякаць:

– Ты спіш, а суседзі ўжо снедаюць! Вунь як смачна пахне.

«Ну, пачакай, суседачка, – падумала Васілевічыха. – Я табе пакажу!»

Неўзабаве ў Івановай надарыўся юбілей. Яна запрасіла шмат гасцей, падрыхтавала багаты стол, паклапацілася пра музыкаў. Вядома, былі там і Васілевічы. Прыйшлі не з пустымі рукамі, а з бутэлькай дамашняга віна, гарой бліноў з макам і сокавыціскалкай у падарунак.

Усе госці весяліліся, гаварылі юбілярцы прыгожыя словы, жадалі здароўя, дабрабыту, хвалілі смачныя стравы. Калі ж на стол паставілі бліны з макам, Васілевічыха не вытрымала, наліла сабе поўны фужэр віна і сказала тост:

– Дарагія госці! Хачу выпіць за сваю любімую суседку, добрую і працавітую гаспадыню, якая, не паверыце, ужо а чацвёртай гадзіне раніцы пачынае пячы свайму Івану бліны са скваркамі. Карыстаючыся выпадкам, хачу, даражэнькая, папрасіць, каб пасля юбілею ты ўставала на пару гадзін пазней. Бо не такая ж і я кепская гаспадыня, і мае бліны не горшыя, хоць і з макам. Бачыш, як усе іх ядуць са смакам!

Госці дружна засмяяліся, а юбілярка паабяцала, што з заўтрашняга дня будзе ўставаць на адну гадзіну пазней звычайнага.

*Шаркоўшчынскі раён,*
*агр. Радзюкі.*




Шукаеце разумення? Вы знойдзеце яго ў слоўніку пасля слова «разуваць».




* * *

Ідзе экзамен. З аўдыторыі выбягае радасная студэнтка. Аднагрупнікі пытаюцца:

– Ну, як, здала?

– Так!

Следам з аўдыторыі выглядвае стомлены выкладчык і ўдакладняе:

– Не яна здала, а я здаўся...

* * *

– Стаяць! Гэта рабаванне!

– Стаяць – гэта дзеяслоў, дурань...

* * *

Разумны студэнт заўсёды ведае, калі ўключыць дурня.

* * *

Не можаш быць добрым прыкладам, паспрабуй стаць жахлівым папярэджаннем.

* * *

– Добры дзень! Вы толькі што пачалі чытаць фразу, якую зараз заканчваеце чытаць.

* * *

Як патлумачыць замежніку, што выраз «вельмі разумны» не заўсёды камплімент, «разумны вельмі» – здзек, а пытанне «занадта разумны?» – пагроза?

# Усмешкі розных шырот

Жонка была ў ад'ездзе і пазваніла мужу:

– Як мая котка?

– Здохла.

– Які жах! Няўжо ты не мог паведаміць мне пра гэта больш далікатна! Сказаў бы, напрыклад, што яна сядзіць на вільчыку. А потым – што яна звалілася і загінула. Зразумеў?

– Зразумеў.

– А як мая мама?

– Сядзіць на вільчыку.

* * *

Дзве дамы гутараць пра замужжа.

– Мне здаецца, – гаворыць адна, – што замужжа напамінае міраж у пустыні – з палацамі, пальмамі і вярблюдамі. Спачатку знікае палац, за ім – пальмы і ты, нарэшце, застаешся з адным вярблюдам.

* * *

Малочнік:

– Ты даліваў сёння ваду ў малако?

Новы памочнік:

– Так, сэр.

Малочнік:

– Хіба ты не ведаеш, што гэта амаральна?

Новы памочнік:

– Так, сэр, але вы ж самі сказалі...



Шахрам РЭЗАІ
*(Іран)*



Уладзімір АБРАЯН
*(Арменія)*






Уладзімір ХАХАНАЎ
*(Расія)*




Ёван ПРАКОПЛЕВІЧ
*(Сербія)*

Студэнцкія гісторыі

**Віктар ВАРАНЕЦ**

## *Ад аўтара*

*Бадай, любы студэнт можа ўспомніць мноства самых розных гісторый, анекдотаў, баек і нават вершаў са студэнцкага жыцця. Кожнае новае пакаленне навучэнцаў расказвае бывальшчыны ў сваёй інтэрпрэтацыі, аздабляючы старыя, як свет, сюжэты новымі дапаўненнямі.*

*Гэтыя гісторыі я пачуў ад студэнтаў Гродзенскага медыцынскага ўніверсітэта. І любы з апавядальнікаў горача пераконваў мяне ў тым, што падзеі адбываліся выключна ў нашым універсітэце і таму ёсць сведкі. Магчыма, гэта не зусім адпавядае рэчаіснасці, але нават мне хочацца верыць, што ўсё адбывалася менавіта ў роднай навучальнай установе...*




Кожны, хто вучыўся хоць крышачку ў ВНУ, адразу ж распазнаў бы ў гэтых хлопцах і дзяўчатах першакурснікаў другога тыдня навучання. Ім было цікава ўсё: доўгія калідоры, вялікія і прасторныя кабінеты, строгія выкладчыкі і яшчэ не зусім зразумелыя словы – дэкан, куратар, рэктар, семінар... Вось і зараз, упершыню наведаўшы лекцыйную аўдыторыю, студэнты доўга і з захапленнем круцілі галовамі, раз-пораз выдаючы прыглушаныя гукі захаплення. Але зайшоў выкладчык, і ўсе хуценька расселіся за сталы.

Дацэнт быў ужо досыць сталым чалавекам. За час працы ва ўніверсітэце ён да ўсяго прывык і мала чаму



Павел КАНСТАНЦІН
*(Румынія)*



Аболфазл МАХТАРАМІ
*(Іран)*



Уладзімір КАЗАНЕЎСКІ
*(Украіна)*






Валянцін ДРУЖЫНІН
*(Расія)*

Малочнік:

– Я сказаў табе, што трэба спачатку наліць у бітон вады, а потым ужо даліваць туды малако. Тады мы з чыстым сумленнем можам гаварыць, што не разбаўляем малако вадой.

* * *

– Ты назваў Еву дурніцай. А цяпер зрабі ласку сказаць, што шкадуеш пра гэта, – кажа маці сыну.

– Ева, я вельмі шкадую, што ты дурніца...

* * *

Кампанія аб'явіла конкурс на лепшую прапанову па эканоміцы. Пераможцу належала выдаць прэмію ў 25 фунтаў. Перамог шатландзец, які прапанаваў скараціць прэмію да 10 фунтаў.

* * *

Урачу, які нядаўна ажаніўся, пазванілі калегі і запрасілі на партыю ў брыдж.

– Тэрміновы выклік, – растлумачыў ён, калі павесіў трубку.

– Нешта вельмі сур'ёзнае? – спытала ўсхваляваная жонка, калі ўбачыла, што муж хуценька апранаецца.

– Так, надзвычай! Тры ўрачы ўжо там!

здзіўляўся. Прывітаўшыся, адразу ж абвясціў тэму лекцыі і пацягнуўся рукой па крэйду. Крэйды не было. Тады ён папрасіў хлопца, які сядзеў за першым сталом, схадзіць і пазычыць кавалачак у суседняй аўдыторыі. Студэнт хуценька выскачыў за дзверы.

На калідоры юнак хвілінку пастаяў, не ведаючы, куды пайсці, а затым накіраваўся да лесвіцы, што вяла ўніз. Спусціўшыся на паверх ніжэй, ён пастукаўся ў першыя ж дзверы, за якімі чуўся прыглушаны голас лектара. Перад ім стаяў немалады і як быццам падобны на некага выкладчык.

– Прабачце, калі ласка, вы не пазычыце кавалачак крэйды? – нясмела запытаў студэнт.

– Не, – адказаў мужчына. – Самі толькі што паслалі чалавека па яе.

Хлопец ціхенька выйшаў з аўдыторыі і тым жа шляхам накіраваўся ў свой пакой. Каля дошкі чытаў лекцыю сталы і ўжо вельмі знаёмы з выгляду выкладчык.

– Прабачце, калі ласка, – загаварыў студэнт, – але ў суседняй аўдыторыі крэйды таксама няма.

– Я ведаю, – адказаў мужчына. – Адтуль толькі што прыходзілі.

Увесь курс грымнуў дружным рогатам.




На падрыхтоўчым аддзяленні ішлі заняткі па беларускай мове. Выкладчык каторы раз раскрываў механізм напісання пераказу, а слухачы меланхалічнаківалі галовамі. Каб страсянуць гэтую апатычную аўдыторыю,

Працяг на стар.14.




Беларуская старонка
Славіцца дзяўчатамі,
Бульбаю, прыпеўкай звонкай,
Хлопцамі вусатымі.

☺ ☺ ☺

Еш, мой любы прымачок,
Каўбасу ды кумпячок,
Каб пад бок мяне штурхаць
Кожнай ночы разоў пяць!

☺ ☺ ☺

Дзед не хваліцца нікому,
Што ён мае боты з хрому.
Злодзеі дазнаюцца –
Возьмуць, не спытаюцца!

☺ ☺ ☺

Я – дзяўчына-непаседа,
Не ўпільнуеш, хоць крычы:
Цалавацца да суседа
Уцякаю уначы.

☺ ☺ ☺

Думкі Стася – пра рыбалку
Ды пра карпа, што ў рацэ.
Ён рыбак заўзяты змалку:
Дрыхне з вудай у руцэ.

☺ ☺ ☺

Ох, каханне-хваляванне,
Ты даводзіш да бяды:
Цераз слёзы ды расстанні
Стала важыць тры пуды.

☺ ☺ ☺

Я жанчына, што шыпшына,
Ты ж – нібыта памяло.
Абяцаў набыць машыну –
Ровар мне купіў, трапло!

☺ ☺ ☺

Палюбілі зараз дзеўкі
Не спадніцы, а штаны.
Тытунём, як табакеркі,
Патыхаюць скрозь яны.

☺ ☺ ☺

Дык зайграйце мне, музыкі,
Каб натанцавалася.
Я была калісь вялікай,
Ды крыху стапталася.

☺ ☺ ☺

Перастань, мілок, злавацца
Ды забудзься пра ныццё.
Лепей будзем цалавацца,
Бо кароткае жыццё.

☺ ☺ ☺

Гучна зарыпяць масніцы,
Калі я пачну скакаць.
Каму – дваццаць,
каму – трыццаць,
Мне ж – заўсёды сорак пяць!

**Праспявала**
**Людміла ЮШЫНА,**
*г. Гомель.*

---

*Заканчэнне. Пачатак на стар.12.*

мужчына выкарыстаў правераны на папярэдніх навучэнцах спосаб:

– А зараз, паважаныя, – сказаў ён, – я прачытаю некалькі «ляпсусаў» з прац вашых папярэднікаў. Таму ўважліва слухаем і не дапускаем такога ў сваіх пераказах.

У вачах прысутных з'явілася зацікаўленасць.

– Зачытаю радкі з пераказу па рамане Льва Талстога «Вайна і мір». Слухайце ўважліва: «Андрэй Балконскі ляжаў пад блакітным небам Аўстэрліца і займаўся самазадавальненнем...»

Група ўзарвалася ад рогату. Дзяўчаты, зачырванеўшыся, смяяліся ў далоні, хлопцы – ва ўсё горла.

Калі ўрэшце сцішыліся, адзін са слухачоў, усё яшчэ давячыся ад смеху, гучна вымавіў:

– Гэта ж трэба было такое слова выдумаць – Аўстэрліц!

Аўдыторыя грымнула зноў...



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

# Навіны з МУС: матай на вус…



## Што будзе гарэць?

**У вёсцы Малявічы Жлобінскага раёна школьнік выпадкова падпаліў склад, дзе захоўвалася больш чым 70 тон саломы.**

Кожнаму вядома, што з агнём гуляць нельга, асабліва дзецям. Але мясцовы 9-гадовы хлопчык разам з сябрам не звярнулі ўвагі на гэтае папярэджанне. Яны бавілі час на складзе сельгаспрадпрыемства «Папаратнае». У нейкі момант у школьніка паміж цюкоў звалілася сандаля. Каб убачыць яе і дастаць, хлопчык вырашыў падсвяціць запальнічкай. У імгненне вока салома загарэлася – і гэтак жа хутка з месца хуліганства зніклі дзеці.

Сума ўрону склала 17 мільёнаў рублёў. Іх, цалкам верагодна, давядзецца вяртаць бацькам. А што будзе гарэць у школьнікаў, якія сваволькічалі з агнём, няцяжка здагадацца...



## Слёзы ад цыбулі

**На Гомельшчыне работнік аднаго КСУП спрабаваў украсці больш за сем тон цыбулі.**

«Хто яе распранае, той слёзы пралівае». Усім вядомая загадка ўвасобілася ў рэальнасць. Вось толькі работнік гаспадаркі не здымаў з цыбулі шалупінне, а краў яе.

Ноччу падчас уборкі з поля гародніны рабочы, адказны за захаванасць ураджаю, убачыў, як загружаны трактар паехаў не на тэрыторыю ўнітарнага прадпрыемства, а ў іншы бок. Ён прасачыў за тэхнікай. Украдзеную цыбулю выгрузілі ў суседняй вёсцы на адным з двароў.

Зламысніка ў хуткім часе затрымалі супрацоўнікі Аддзела ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкама. Вядзецца следства. Мужчына, мяркуем, пралье не адну слязінку з-за ўкрадзенай цыбулі.




## Дарагая навука

**Выкладчык сталічнага каледжа за станоўчыя адзнакі браў хабар у студэнтаў. Сума за экзамен ці лабараторна-практычныя заданні складала ад 150 тысяч рублёў да 100 долараў ЗША.**

З кожным годам месц на бюджэце навучальных устаноў становіцца ўсё менш і менш. Але мала хто ведае, што нават на «бясплатным» аддзяленні студэнты часам аддаюць грошы за адукацыю.

Так, 27-гадовы педагог рэгулярна «выцягваў» са сваіх навучэнцаў грошы за адзнакі. Сёлета ў чэрвені мужчыну затрымалі «на гарачым», калі група студэнтаў аддавала яму хабар у памеры амаль чатырох мільёнаў рублёў.

Выкладчыка затрымалі, на яго маёмасць накладзены арышт. Дарагая навука, магчыма, прывядзе да доўгага тэрміну заключэння...

## У наш час існуюць тры рэчы, на якія можна глядзець бясконца:



экран тэлефона



экран планшэта



манітор камп'ютара

Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# Спахоп

*Гісторыйка*





Быў позні вечар, калі перад носам у Сазончыка пагрозліва затрэнькаў мабільнік. «Хто гэта мог патрывожыць мяне ў такі час?» Тэлефанавала сястра Люба, што жыве ў іншым горадзе.

– Не спіш? – адразу ж пацікавілася яна.

– Ды не, хакей гляджу: гульня ідзе ў запісе. Нашы выйграюць...

– Вось і добра. А я сёння схадзіла на рынак, купіла курыных ножак, лімонаў пару, кілаграм яблыкаў узяла... Нашых, не польскіх. Яны хоць на выгляд і горшыя, але сакавітыя, з кіслінкачкай. Я такія люблю. Адзін армянін ці азербайджанец прадаваў даволі танна курткі неблагія. Хацела набыць для Веркі, пігаліцы, але без яе пабаялася ўзяць: а раптам не дагаджу?.. Забылася спытаць: Мікола ў скайпе не з'яўляўся? Ужо тыдзень не паказваецца. Мо п'е там, у той Маскве, і баіцца сваю морду нам паказаць? Хай бы ўжо ажаніўся, ці што? Падкажы яму, неслуху. Цябе, можа, як брата, паслухае... Не чуў, пенсію не падымуць у наступным месяцы? І я не чула. Інтэрнэт і тэлебачанне маўчаць таксама. А што ім – яны ж не пенсіянеры!.. Марыська, суседка, сына ў армію адправіла. Ат, якія цяпер салдаты? Усё пад бокам. Татка і танк. Не тое, што ты – ажно ў Казахстане служыў. Дзе Беларусь, а дзе Казахстан! Хоць свет пабачыў, праўда ж?.. Цікава, якое заўтра надвор'е будзе? Думаю на дачу выбрацца. А ты не ездзіў на сваю? Прадаў? І маўчаў! Ну ты і Шціроліц у мяне! Здаецца, усё, дабранач. Дзесяць хвілін якраз прайшло...

– Якія дзесяць хвілін? – не зразумеў Сазончык.

– Глянь на каляндар.

– Ну.

– Якое сёння чысло?

– Трыццаць першага.

– Усё правільна. Месяц заканчваецца. А я ледзь не праваронiла – у апошнюю хвіліну ў мяне спахоп толькі атрымаўся. На мабільніку заставалася яшчэ дзесяць хвілін бясплатных размоў. Не прападаць жа дабру!

Сястра пажадала брату яшчэ раз спакойнай ночы, і яны развіталіся.

Сазончык пэўны час сядзеў з разяўленым ротам, нават забыўся на хакей. А калі спахапіўся, па тэлевізары ішла ўжо зусім іншая перадача. Ён нервова вылаяўся: «З тваім спахопам, Люба, нават не заўважыў, як гульня скончылася!» І пайшоў спаць.

*г. Гомель.*






Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.




АБВІНАВАЧАНЫ – той, хто перапіў віна.

АБВУГЛІЦЦА – займець жыллё.

АБІБОК – галалёд.

АБЛІЧЧА – махлярства ў краме.

АБЛЯПІХА – тынкоўшчыца.

АБМЕЖАВАЛЬНІК – пагранічнік.

АБМЕРКАВАННЕ – зняцце мерак краўцом.

АБМІНУЦЬ – абясшкодзіць міну.

АДНАДУМЕЦ – дыктатар.

АДНАДУШНАСЦЬ – адзінота.

АДЧАЙВАЦЦА – піць многа чаю.

АЛАДКА – прымірыцелька.

АПАРВАННЕ – сватанне.

АТАВІЗМ – другі ўкос.

АТАМАН – вучоны-ядзершчык.

АЎЧАРКА – даглядчыца авечак.

АФІЦЫЯНТ – афіцыйная асоба.

АХАЙНЫ – абыякавы.

АШАЛОМЛЕНЫ – прывітаны паяўрэйску.

БАЛАЦІРАВАЦЦА – хадзіць па балоце.

БУЛЬДОЗЕР – гаспадар бульдога.

ВАГОНКА – праваднiца на чыгунцы.

ВАЗОЎНЯ – таксапарк.

ВАРШТАТ – работнікі кухні.

ВЕРШНІК – паэт.

ВОДПУСК – шлюз у плаціне.

ВОСТРАЎ – разнастайнае меню.

**Соф'я КУСЯНКОВА,**
*Рагачоўскі раён,*
*в. Лучын.*







Малюнкі Аляксандра ПЯТРОВА.




– Ты ў парадку?
– Так, у выпадковым.

* * *

– Карыстаючыся момантам, хачу перадаць прывітанне сваім сябрам, якія таксама карыстаюцца «Момантам».

* * *

Кола яго інтарэсаў было вуглаватым.

* * *

– Я ва ўсім пачаў сумнявацца. Толькі не ведаю, ці ва ўсім я пачаў сумнявацца?

* * *

– Слова – не верабей...
– Усё не верабей, акрамя вераб'я!

* * *

– Прафесар, я не заслугоўваю двойку! – ледзь не плача студэнт.
– Ведаю, – спакойна адказвае выкладчык. – Але адзнакі яшчэ ніжэйшай, на жаль, няма.



* * *

Мэта якаснай гуманітарнай адукацыі заключаецца ў тым, каб навучыць па-філасофску адносіцца да недахопу грошай.

* * *

З размовы студэнтаў.
– Ну, як, хадзіў сёння на кансультацыю? Што там было?
– Ды нічога, пару слоў пра экзамен сказалі.
– А калі канкрэтна?
– «Не здасцё!»

# Смецце





Ігнаруючы прагноз,
Смецце мой стары панёс.
Без ватоўкі і без шапкі,
Толькі ўсунуў ногі ў тапкі.

А як выйшаў за парог –
Вецер ледзь не зрынуў з ног,
Моцны дождж хвастаў па твары...
Ля пад'езда ж – «тары-бары»
Са Сцяпанам і з Кузьмой.
Прастаяў дзядуля мой
З сябрукамі шмат хвілін...
А цяпер – пеніцылін
Ажно пяць разоў на суткі
У сцягняк пускаю пруткі.
Як баіцца дзед уколаў!
«Не хварэў жа я ніколі, –
Лямантуе на ўсю хату, –
Ты ў няшчасці вінавата!



Хіба смецце замінала?
Пра мяне ані не дбала.
Век праз гэтых баб – і толькі –
У мужчын няшчасных болькі...»
Я ж за гэткую абразу
Раззлаваўшыся, адразу
Як шпільнула у сцягняк!..
Вось, цяпер лячу сіняк.
Ёдам сетачку малюю,
Мужа у шчаку цалую.
Дзед, пагладжваючы сцёгны,
То бурчыць пад нос, то стогне.
Ну, а мне, старой кабеце,
Трэба несці з хаты смецце.



**Рэгіна РЭЎТОВІЧ,**
*г. Дзяржынск.*



Малюнак
Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

**Адказы да крыжаванкі, змешчанай на стар. 23:**

**1.** Парасон. **2.** Карагод. **3.** Баракуда. **4.** Паралель. **5.** Катамаран. **6.** Марафонец. **7.** Каралева. **8.** Хмарачос. **9.** Карамель. **10.** Абаранак. **11.** Каравай. **12.** Машкара. **13.** Карась. **14.** Парася. **15.** Баран. **16.** Гараж. **17.** Гара. **18.** Фара.





– Гад ты такі! Усё жыццё мне сапсаваў! Усю маладосць на цябе загубіла! – чулiся з пакоя горкія дзявочыя рыданні.

Голас з кухні:

– Дачушка, можа, хопіць ужо табе з дыпломам размаўляць?

* * *

Аб'ява ў студэнцкім інтэрнаце:

«На гэтым тыдні чакаюцца перабоі з гарачай і халоднай вадой. Пераб'юцца карпусы № 1, № 4 і № 6».

* * *

– Руку вы не прапаноўваеце, сэрца ў вас няма... Дайце хоць на шыю сяду!

* * *

– Здаецца, у мяне перасох запал.

– Што запала?

– Перасох.



* * *

Увогуле Віні-Пух не хацеў жаніцца, але думка пра мядовы месяц не давала яму спакою.

* * *

Трэба забараніць разумным думаць, каб не крыўдзіць пачуцці дурных.

* * *

– Учора ты мяне вельмі балюча стукнула, а сёння закіпяціла каву. Ты такая непастаянная!

– Называй мяне пераменнай, дарагі, – адказала электрычнасць.






## Няхай пастаяць

Шавец, аддаючы заказчыку новыя боты, кажа:

– Тыдні два яны могуць трохі ціснуць. Не крыўдуйце.

– Э, такой бяды, пацярплю, – супакойвае той. – Пахаджу пакуль у старых, а гэтыя няхай пастаяць.



## Была ці не?

Рабіў некалі адзін майстар печ. Пакладзе цагліну, грукне па ёй кулаком і кажа:

– Як і была тут.

Другую пакладзе ды зноў прамовіць:

– Як і была тут.

Назаўтра прыходзіць, а печ развалілася.

– Як і не была тут... – пачухаўшы патыліцу, зазначыў пячнік.

**Даслаў Віктар САЛАНЕЦ,**
*г. Любань.*

Малюнкі Алега ГУЦОЛА.






## ДЗЕ ЛЕПШ ЗІМАВАЦЬ?




Фота аўтара.

Хоць і цяжка ў гэта вам паверыць
(За акном кастрычнік, як-ніяк),
Гляньце: ходзіць бусел, быццам мерыць
Двор у нашай вёсцы — вось дзівак!

Родзічы па Афрыцы гуляюць,
З імі побач кракадзіл і леў.
Наш жа бусел ні пра што не дбае,
На начлег ідзе у цёплы хлеў.

Сваякам вясною праклякоча:
Чым ляцець, бадзяцца абы-дзе,
Наракаць на лёс, амаль сірочы, —
Лепей зімаваць каля людзей.

**Данііл ВАЛЧОК,**
*Браслаўскі раён,*
*агр. Слабодка.*




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.

## 10 прыкладаў бессэнсоўных дзеянняў

*Дзіўна, але часам мы нават не заўважаем, як робім тое, што не мае ніякага сэнсу. Не верыце? Тады прачытайце гэтыя дзесяць прыкладаў бессэнсоўных чалавечых дзеянняў і ўпэўніцеся, што так яно і ёсць!*

**1.** Зазірнуць у халадзільнік, зачыніць яго, а праз хвіліну зноў адчыніць.



**2.** Праверыць па мабільніку час і адразу яго забыць.




**3.** Пры выключэнні камп'ютара паспець адключыць калонкі да развітальнай музычнай застаўкі.



**4.** Пастаянна перачытваць надпіс на асвяжальніку паветра.






**РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе**




## Алесь БАДАК
## «Зоркі для вавёркі»

Ці можа пеўнік навучыцца чытаць, а жаба – тая самая, што жыве на балоце, – скончыць кансерваторыю? Алесь Бадак перакананы, што тут нічога неверагоднага няма, яшчэ і не такое можа здарыцца ў свеце. Праўда, у свеце казачным, дзе і жывуць героі яго новай кнігі. Юных чытачоў чакаюць цікавыя і вясёлыя гісторыі, якія вучаць дабрыні, стараннасці, спагадзе, а перадусім дапамагаюць бачыць у паўсядзённым незвычайнае, тое, што можа быць створана толькі з дапамогай фантазіі.

У зборнік увайшлі сем казак, аформленых мастачкай Кацярынай Першынай. Адрасуецца дзецям малодшага школьнага ўзросту.

*P. S. Гэтае і іншыя выданні «Выдавецкага дома «Звязда» вы можаце набыць у любой з кнігарань ААТ «Белкніга», адрасы якіх шукайце на сайце* www.belkniga.by, *і ў самім Выдавецкім доме па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Захарава, 19.*

*Даведкі па тэлефонах 284-44-04, 288-12-94.*

*Пра наяўнасць кніг у крамах Мінска можна даведацца па тэлефонах: 296-70-72, 292-70-72.*

*Сайт «Выдавецкага дома «Звязда» – www.zviazda.by*

**Алесь БАДАК**

# БЕЛЫ ПЕЎНІК

*(Урывак з казкі)*

Аднаго разу Белы Пеўнік знайшоў на падворку некім забыты буквар і навучыўся па ім чытаць.

– Мама! – радасна закрычаў ён на ўвесь падворак. – Я ўмею чытаць!

На гэты крык збегліся і мама Чорная Курыца, і ўсе яго чацвёра сясцёр.

– Гэтага не можа быць, – сказала мама. – Мы, куры, не ўмеем чытаць!

– Не ўмеем! Не ўмеем! – тоненькімі галаскамі паўтарылі ўслед за Чорнай Курыцай яго сёстры.




– А я ўмею! – з гонарам сказаў Белы Пеўнік.

Мама пагладзіла Пеўніка па галаве і, смеючыся, сказала:

**5.** Па сто разоў націскаць на кнопку ліфта, калі некуды спазняешся.



**6.** Паставіць на сотавым тэлефоне пяць будзільнікаў, каб потым павыключаць іх і праспаць.



**7.** Зазіраць у тунэль метрапалітэна, пакуль чакаеш цягнік.



**8.** Мацней ціснуць на кнопкі тэлевізійнага пульта, калі ў ім садзяцца батарэйкі.



**9.** Пайсці ў краму па цукар, а пасля вярнуцца дадому з рознымі пакупкамі, але без цукру.




**10.** Абыходзіць бокам шчылінкі на асфальце.



**Заўважыла Карына ПАЦКО,**
*г. Жодзіна.*

– Але раз ніхто ў нашым родзе не ўмее чытаць, то хто ж цябе навучыў гэтаму?

– Я сам навучыўся! – адказаў Белы Пеўнік.

– Так не бывае, – пакруціла галавой Чорная Курыца.

– Не бывае! Не бывае! – запішчалі сёстры.

– Калі вы не верыце, тады паслухайце, – сказаў Белы Пеўнік і пачаў чытаць па складах: – «Падаў з неба снег уранку на дарогі і на ганкі». Мама, а што такое «снег»?

– Ну, вядома, – усміхнулася Чорная Курыца. – Ты нарадзіўся на пачатку лета і яшчэ ніколі не бачыў снегу... Але ж гэта значыць, – разгубілася яна, – што ты... што ты, і праўда, умееш чытаць?!

– Умееш! Умееш! – радасна закрычалі сёстры.

Вестка пра тое, што Белы Пеўнік умее чытаць, хутка абляцела суседскія падворкі. Кожнаму хацелася паслухаць, як ён чытае.

Аднаго разу Беламу Пеўніку трапілася парваная кніга з малюнкамі розных жывёл і раслін. «Чырвоная кніга», – прачытаў Белы Пеўнік на вокладцы. Ён пачаў гартаць уцалелыя старонкі, учытвацца ў тое, што было на іх напісана. І раптам спалохана кінуўся да маці.



– Мама! – закрычаў Белы Пеўнік. – Я прачытаў, што ў лесе расце трава, якая называецца лясны кураслеп. Значыць, мы можам ад яе аслепнуць?!

Куры, як вядома, вельмі любяць дзяўбці траву, таму тое, што сказаў Белы Пеўнік, усіх вельмі ўсхвалявала.

– А як выглядае гэтая трава? – спытала Чорная Курыца.

– Я не ведаю, – ціха сказаў Белы Пеўнік. – Якраз на гэтым месцы была вырвана старонка.

– Вось як кепска рваць кнігі! – усклікнула Чорная Курыца. – Ды яшчэ такія патрэбныя!

– Я толькі ведаю, што гэтая трава расце не толькі ў лясах, але яшчэ і каля рэк, – дадаў Белы Пеўнік.

– Яна расце там, дзе мы часта бываем! – закрычала Чорная Курыца. – Значыць, мы ў любы момант можам з'есці яе і аслепнуць!

– Мы можам аслепнуць! Аслепнуць! – спалохана запішчалі сёстры Белага Пеўніка.

– А каб гэтага не здарылася, – стала супакойваць іх Чорная Курыца, – нам, на ўсялякі выпадак, трэба перастаць дзяўбці любую траву.

Сёстры Белага Пеўніка ўжо сабраліся паўтарыць услед за маці: «Трэба перастаць дзяўбці! Перастаць дзяўбці!», ды замест гэтага закрычалі:

– Але мы так любім дзяўбці траву! Так любім!

Чорная Курыца падумала і сказала:

– Калі трапляеш у складаную сітуацыю і не ведаеш, што рабіць, трэба звярнуцца па дапамогу да каго-небудзь старэйшага.

– Але сярод нас ты самая старэйшая, – нагадаў ёй Белы Пеўнік.

– Не забывайце, што ў мяне таксама ёсць мама, ваша бабуля Сівая Курыца. Праўда, яна такая старая, што рэдка выходзіць з куратніка, але ў яе яшчэ добрая памяць, і, можа, яна ўспомніць, як выглядае трава кураслеп.

І ўсе накіраваліся ў куратнік...




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

# КУДЫ ЗАЛЯЦЕЎ ПАПУГАЙ АРА?

*Крыжаванка*

*У кожнае слова, размешчанае па гарызанталі, «заляцеў» папугай ара. Дзесьці ён схваўся на яго пачатку, а недзе – у сярэдзіне ці ў канцы. Адгадай словы і адшукай усіх папугаяў, карыстаючыся наступнымі падказкамі.*

**1.** Калі, выходзячы з дому, узяць яго з сабой, то дажджу абавязкова не будзе.
**2.** Танец вакол навагодняй ёлкі.
**3.** Драпежная рыба, якую называюць яшчэ марскім шчупаком.
**4.** Сяброўка мерыдыяна.
**5.** Каб плыць на ім па вадзе, неабходна круціць педалі.
**6.** Спартсмен, што бегае доўга і далёка.
**7.** Самая моцная шахматная фігура, звязаная шлюбам з самай слабай.
**8.** Будынак, які дахам закранае хмары.
**9.** Метамарфоза, якая адбываецца з цукрам пасля награвання.
**10.** Так шафёры ласкава называюць руль.
**11.** «На чужы ... рота не разявай» *(прыказка)*.
**12.** «Армія» маленькіх двухкрылых істот, якія любяць лезці ў вочы.
**13.** «Спраўляў... імяніны, \\ Купіў ... пуд мякіны, \\ І напёк з яе бліноў \\ Для сваіх гасцей-ліноў» *(з верша Г. Аўласенкі)*.
**14.** «Хто ... украў, таму ўвушшу вішчыць» *(прыказка)*.
**15.** «Другі ... – ні «бэ», ні «мя», \\ А любіць гучнае імя» *(з байкі К. Крапівы)*.
**16.** Галоўны прытулак мужчыны-аўтааматара.
**17.** Звальваецца з плячэй, калі пазбаўляешся ад вялікіх клопатаў.
**18.** «Вока» аўтамабіля.




*Адказы на стар. 18.*

*Склала Ганна КІСЛУШЧАНКА.*




– Патэлефануй мне!
– Сам патэлефануй...
– Не, ты лепш.
– Вядома, я лепшая, а ты тэлефануй!

* * *

– Чаму вы спазніліся?
– Я зазірнуў у кафэ, а там да мяне падышоў Джоні Дэп. Ён выпіў маю каву і сказаў: «Усё роўна табе ніхто не паверыць».

* * *

Ці ведаеце вы, што вопытны студэнт, пакуль стаіць у чарзе ў сталовай, здольны так віртуозна закапаць катлету ў кашу, што гэтага не заўважыць самая прыдзірлівая касірка?

* * *

Неверагодна, але выразы «гарбата доўга астывае» і «гарбата доўга не астывае» маюць адзін і той жа сэнс.



* * *

Кожны вечар гуляю перад сном. То па адным сайце, то па другім...

* * *

25 студзеня – дзень студэнта.
23 лютага – дзень няздзейсненага студэнта.

* * *

Выкладчык на лекцыі:
– А хто не слухае дацэнта, будзе слухаць сяржанта!

* * *

– Вадзік, ты якія-небудзь іншыя спосабы падрыхтоўкі да экзаменаў ведаеш, акрамя малітвы?




## Анекдоты ад Вікторы Уладзіміраўны ШАЎЧЭНКІ,

*дырэктара Рагачоўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі*

– Што вы так крычыце? Я яшчэ нават не дакрануўся да вашага зуба.

– Як?! Вы яшчэ і дакранацца да яго хочаце!

* * *

– Хадзілі з бацькам у цір.

– Як поспехі?

– На жаль, паляваннем нам не пракарміцца.

* * *

Брытанскія вучоныя правялі вопыты з алкаголем. Высветлілася, што гарэлка з ільдом шкодзіць ныркам, ром з ільдом шкодзіць печані, джын з ільдом шкодзіць сэрцу, віскі з ільдом шкодзяць мозгу. Словам, гэты лёд неверагодна шкодны!

* * *

– Калі чалавек – талент, то ён таленавіты ва ўсім!

– Так, з ідыётамі такая ж сітуацыя.

* * *

Падыдзі да каго-небудзь з дамашніх, скажы: «Цябе да тэлефона», дай пульт ад тэлевізара і назірай за рэакцыяй.

* * *

Пасля сняданку бутэрбродамі з чырвонай ікрой зубы шкада чысціць!

* * *

Рай – гэта месца, дзе няма будзільнікаў, панядзелкаў і начальнікаў.

* * *

– Грошы – гэта такія здраднікі! Гуляць, значыць, ідзём разам, а дадому я заўсёды вяртаюся адзін!

* * *

– Ну, ты і вяселле адбухаў! Адкуль грошай столькі ўзяў?

– Дык я ўжо даўно адкладаў пакрыху на чорны дзень. І вось ён надышоў.


«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс

№ 10 (1525), 2015 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),* Ганна КІСЛУШЧАНКА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў),* Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры).*

Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.

Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: vozhyk@zviazda.ru; a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 – індывідуальны, 01380 – індывідуальны льготны,
748442 – ведамасны, 01381 – ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана да друку 05.10.2015. Фармат 60x84 $^1/_8$. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,38. Тыраж 1611 экз. Заказ .

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.



Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца, прымаюцца толькі ў электронным выглядзе.
Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык».
Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2015
© РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», 2015





Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.







Малюнак Алега ПАПОВА.




Малюнак Ганны КІСЛУШЧАНКІ.

Малюнак Аляксандра ШМІДТА.






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.







*Матэрыялы на стар. 3, 10, 19, вокл. узяты з інтэрнэта.*



Малюнак Пятра КОЗІЧА.



Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА.




Малюнак Алега ПАПОВА.

Чытайце!
У наступным нумары:




Калі заяц варыць піва?

Як займець жонку на гадзіну?

Пра што жартуюць вялікія?

Што аб'ядноўвае Паўліна і Пеўня?

***І многае-многае іншае!***
***Да сустрэчы!***

# Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны**
(для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны**
(для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**

***Выпішы «Вожык» і спі спакойна!***



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**
індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў,
індэкс 748442, цана 84600 рублёў,
індэкс 01381, цана 66700 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ – па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разлікова-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

